# Голас Радзімы

№ 8 (2150)
22 лютага 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**У Мінску прайшоў конкурс прыгажосці сярод пераможцаў абласных спаборніцтваў на званне самай прыгожай дзяўчыны Беларусі. Яшчэ зусім нядаўна падобныя мерапрыемствы разглядаліся ў нас як неэтычныя, якія зневажаюць гонар і годнасць жанчын, уласцівыя не нашаму, а «таму», сытаму і разбэшчанаму свету. Але вось неяк неўпрыкмет конкурсы прыгажосці ўвайшлі ў нашу штодзённасць, і нічога, свет не перавярнуўся, затое стаў больш яркі, прыгожы, святочны. І адзінае, што нас пакуль не задавальняе, — гэта рэжысура свят, адсутнасць спецыялістаў, здольных стварыць на высокім прафесіянальным узроўні праграму відовішча.**

**Тэлевізійнае рэкламнае шоу «Прыгажуня-90» — гэта яркае прадстаўленне, арганізаванае «Рэкламэкспартам» — кааперацыяй прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый і творчых работнікаў, пастравіў галоўны рэжысёр тэатра імя М. Горкага лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Валерый Маслюк. Шоу было запісана на плёнку і будзе паказана на Захадзе з рэкламай прадукцыі прадпрыемстваў-спонсараў гэтага свята прыгажосці.**

**НА ЗДЫМКАХ: самай прыгожай дзяўчынай Беларусі названа будучы мастак-мадэльер, а пакуль першакурсніца Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці семнаццацігадовая Марыя КЕЖА; удзельніцы конкурсу прыгажунь; дзяўчаты дэманструюць мадэлі адзення; Марыя КЕЖА ў час танцавальнага конкурсу.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА і Ю. ЗАХАРАВА.**







ДАСЛЕДАВАННІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

## СУМЕСНЫ ПАЛЁТ

У адпаведнасці з праграмай даследавання касмічнай прасторы 11 лютага 1990 года ў Савецкім Саюзе ажыццёўлены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-9», пілатуемага экіпажам у саставе камандзіра Героя Савецкага Саюза лётчыка-касманаўта СССР Анатолія Салаўёва і бортінжынера Аляксандра Баландзіна.

У ходзе палёту праведзена змена экіпажа пятай асноўнай экспедыцыі навукова-даследчага комплексу — касманаўтаў Аляксандра Віктарэнкі і Аляксандра Сераброва, якія доўгі час працавалі на каляземнай арбіце.

13 лютага 1990 года ажыццёўлена стыкоўка пілатуемага карабля «Саюз ТМ-9» з арбітальным комплексам «Мір».

Касманаўты Аляксандр Віктарэнка, Аляксандр Серауброў, Анатолій Салаўёў і Аляксандр Баландзін пачалі выкананне сумесных работ і эксперыментаў на борце навукова-даследчага комплексу.

Пасля завяршэння сумеснага палёту А. Віктарэнка і А. Сераброў у караблі «Саюз ТМ-8» 19 лютага вярнуліся на Зямлю.

Праграма палёту А. Салаўёва і А. Баландзіна, разлічаная на пяць з палавінай месяцаў, прадугледжвае працяг пачатых касманаўтамі папярэдніх экспедыцый геафізічных і астрафізічных даследаванняў, эксперыментаў па біялогіі і біятэхналогіі.

У красавіку плануецца прыстыкаваць да арбітальнага комплексу «Мір» спецыялізаваны тэхналагічны модуль «Крышталь», на якім устаноўлена апаратура для правядзення новых даследаванняў па астрафізіцы, геафізіцы і біятэхналогіі. На новых тэхналагічных установках модуля экіпажу шостай асноўнай экспедыцыі трэба будзе выканаць вялікую праграму работ па касмічнаму матэрыялазнаўству з мэтай атрымання доследна-прамысловых партый паўправадніковых матэрыялаў з палепшанымі характарыстыкамі для выкарыстання іх у сучаснай электроніцы.

У рамках праграмы біятэхналагічных даследаванняў пачаты работы на электрафарэтычнай установцы «Ручай». Мэтай іх з'яўляецца адпрацоўка базавай тэхналогіі ачысткі інсуліну ва ўмовах мікрагравітацыі.

Новы экіпаж, які прыбыў на арбіту, выконвае серыю медыцынскіх даследаванняў для ацэнкі стану арганізма чалавека на пачатковым этапе адаптацыі да бязважкасці і вызначэння эфектынасці прымяняемых у гэты перыяд прафілактычных сродкаў.

На борце арбітальнага комплексу пачаты эксперыменты з біялагічнымі аб'ектамі, дастаўленымі ў караблі «Саюз ТМ-9». Сярод іх ёсць вышэйшыя расліны, культура тканкі жывёльнага і расліннага паходжання, амфібіі.

МЕРКАВАННЕ

## ДЭФІЦЫТ УЛАДЫ

«Цяпер ідуць атакі на партыю, армію, рабочы клас, сялянства і інтэлігенцыю. Але партыя ў нас— авангард народа, армія —народная, рабочы клас, сялянства, інтэлігенцыя — гэта плоць ад плоці савецкага народа нашай многанацыянальнай краіны. Хто ж тады атакуе нас, хто падняў руку на наш народ, наш Савецкі Саюз? Гэта ж не проста!

Відаць, адказы мы павінны знайсці ў ходзе дыскусіі, што ўзнікла вакол Платформы ЦК КПСС. Перш за ўсё, трэба разабрацца, хто і з якіх пазіцый нас атакуе? Прыглядзьцеся ўважліва — самыя разнастайныя палітычныя сілы, аж да анархістаў, выступаюць з перабудовачнымі лозунгамі. Той-сёй імі проста прыкрываецца, а нехта ў перабудове мае, што называецца, «свой інтарэс». У такой абстаноўцы асабліва важна вызначыць нашы пазіцыі...

Хацелася б сказаць, што ў людзей набралася неўразумелых пытанняў. Напрыклад, у Латвіі мяне пыталіся: а ці патрэбна краіне армія? І калі патрэбна, чаму яна не адчувае належнага клопату? Многія рабочыя не маглі зразумець, чаму ў кааператывах за тую ж працу, што і на дзяржаўных прадпрыемствах, плацяць больш і пры гэтым не бяруць адпаведных падаткаў. Якія ж бізнесмены, на прыклад якіх мы ўсё часцей спасылаемся, якая добраўпарадкаваная дзяржава могуць дазволіць сабе падобную «камерцыю»?

І яшчэ адно горкае пытанне, якое задаюць нашы грамадзяне. Чаму аб канстытуцыйных правах нашых суайчыннікаў у шэрагу рэспублік успомнілі толькі пасля таго, як з'явіліся забітыя і параненыя? А тысячам бежанцаў гэтыя правы ў поўным аб'ёме не забяспечаны да сённяшняга дня.

Адказ на ўсе гэтыя пытанні адзін: у краіне стаў адчувацца самы небяспечны дэфіцыт—дэфіцыт улады. Як ён утварыўся? Мы прывыклі да таго, што ў нас у краіне ўсёй паўнатой улады валодала партыя. Цяпер мы гаворым: «Усю ўладу Саветам». І разам з тым высвятляецца, што яны ёю яшчэ не навучыліся карыстацца. Выпраўляць справы трэба з самых вярхоў, з увядзення прэзідэнцкай улады з адпаведнымі паўнамоцтвамі. Гэта будзе стымуляваць і дзеяздольнасць Саветаў усіх узроўняў. Калі мы гэтага не зробім — можа адбыцца тое, што ўжо адбываецца ў эканоміцы, якая аказалася практычна некіруемай».

(З інтэрв'ю газеце «Праўда» сакратара ЦК КПСС А. Бакланава).

ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ДЭБАТЫ АБ ВЫБАРАХ

Чым бліжэй да выбараў, тым больш актывізуецца палітычнае жыццё Магілёва. На Савецкай плошчы абласнога цэнтра адбыўся шматтысячны мітынг. Амаль чатыры гадзіны на ім працягваліся дэбаты аб асаблівасцях перадвыбарнай кампаніі, перабудовачных працэсах у горадзе і вобласці, месцы і ролі ў іх партыйных арганізацый і партыйных органаў, іх кіраўнікоў.

Ініцыятарамі правядзення мітынгу выступілі некаторыя самадзейныя фарміраванні, у тым ліку неафіцыяльны грамадскі камітэт «За дэмакратычныя выбары». Сярод прычын называліся наступныя. Першая — вострая экалагічная сітуацыя ў вобласці і горадзе, другая — адмова акруговых камісій зарэгістраваць кандыдатамі ў дэпутаты Саветаў розных узроўняў шэраг прэтэндэнтаў на мандат. Пазней высветлілася, што прэтэнзіі да выбарчых камісій будуць разглядацца ў адпаведнасці з законам народнымі судамі.

Многа гаварылася аб экалагічнай сітуацыі ў выніку чарнобыльскай аварыі і канцэнтрацыі хімічнай прамысловасці ў Магілёве. Гучалі прэтэнзіі ў адрас мясцовага кіраўніцтва за ўтойванне інфармацыі аб радыяцыйнай абстаноўцы, запозненую рэакцыю на падзеі.

Не з запушчіваннем у сваёй невінаватасці пачаў выступленне першы сакратар Магілёўскага абкома КПБ В. Ляонаў, а прапанаваў правесці па гэтых пытаннях грамадскае расследаванне, стварыць кампетэнтную і незалежную камісію з прадстаўнікоў любых арганізацый і фарміраванняў. Дарэчы, у падрыхтаваным арганізатарамі мітынгу праекце рэзалюцыі гучала прапанова спыніць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі на забруджаных радыенуклідамі землях. Але за гэта яшчэ год назад выступалі магілёўскія кіраўнікі, толькі іх не падтрымалі планавыя органы.

Выступленне першага сакратара абкома без націжкі можна лічыць кульмінацыяй падзей на Савецкай плошчы. За апошні год тут прайшло мноства падобных мітынгаў, але лідэр абласной партыйнай арганізацыі на іх не прысутнічаў. А магілёўчанам хацелася ведаць яго пазіцыю па многіх праблемах. Не выпадкова пасля выступлення В. Ляонаву задалі мноства пытанняў. Напрыклад, аб апошнім павышэнні заработнай платы работнікам партапарату. Вось што адказаў В. Ляонаў:

— Не я прымаў рашэнне і не маю паўнамоцтваў яго адмяніць. А што датычыць прыбаўкі да майго асабістага акладу, то ўся яна ідзе ў фонд Чарнобыля.

Да мікрафона падыходзіла больш за 20 моўцаў. У прынятай на мітынгу рэзалюцыі, акрамя шэрагу патрабаванняў да органаў улады, ёсць заклік да выбаршчыкаў аддаць свае галасы за прагрэсіўна настроеных кандыдатаў. Гучалі ў асобных выступленнях і патрабаванні аб адстаўцы мясцовага кіраўніцтва, але іх не падтрымалі.

ЭКАЛОГІЯ

## ВІЗІТ АМЕРЫКАНСКІХ ВУЧОНЫХ

Дэлегацыя амерыканскіх экалагаў на чале з прэзідэнтам Нацыянальнай асацыяцыі спецыялістаў па ахове навакольнага асяроддзя О. Брайндэр наведала Акадэмію навук Беларусі. Вучоныя з ЗША азнаёміліся са станам экалагічных даследаванняў у рэспубліцы, цікавіліся методыкай і вынікамі эксперыментаў па вывучэнню ўздзеяння прамысловых выкідаў на жывыя арганізмы і ўплыву чалавека на прыроду.

Цікавасць гасцей выклікалі паведамленні аб тым, як у рэспубліцы вырашаецца праблема ачысткі вадаёмаў і ўтылізацыі донных адкладанняў.

Прафесар Д. Докерці з Нацыянальнай лабараторыі шторму штата Каларада прачытаў лекцыю аб дваццацігадовым вопыце ЗША ў падрыхтоўцы экологаў вышэйшай кваліфікацыі. Ён расказаў таксама аб тым, як амерыканскім вучоным і спецыялістам удалося вырашыць праблему ачысткі вадаёмаў ад забруджвання, справіцца з бічом буйных гарадоў — звалкамі адходаў, рэзка знізіць таксічнасць аўтамабільных выхлапных газаў.

На агульную думку, гэта плённая і карысная сустрэча можа стаць першым крокам да творчага супрацоўніцтва вучоных Беларусі і ЗША ў галіне экалогіі.

АДПАЧЫНАК



У гарадскім парку культуры і адпачынку горада Ваўкавыска пачаў працаваць дыскавідэацэнтр «Царамок». Тут моладзь у вольны час можа паглядзець відэафільмы, патанцаваць—добра адпачыць.
НА ЗДЫМКУ: відэацэнтр «Церамок».

ПАМЯЦЬ ПРА АНТЫФАШЫСТА

## УСКЛАДАННЕ КВЕТАК

Генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда ўсклаў кветкі да мемарыяльнай дошкі нямецкаму антыфашысту Герою Савецкага Саюза Фрыцу Шменкелю з нагоды 74-й гадавіны з дня яго нараджэння.

У цырымоніі ўскладання кветак прынялі ўдзел супрацоўнікі генеральнага консульства ГДР у Мінску, курсанты з ГДР, якія вучацца ў ваенных вучылішчах сталіцы Беларусі. Нямецкія таварышы мінутай маўчання ўшанавалі памяць героя, які загінуў у барацьбе супраць фашызму.

ПА ПРАГРАМЕ «ЗДАРОЎЕ»



Як гэта ні дзіўна, яшчэ некалькі гадоў назад працоўныя калектывы Наваполацка былі супраць выкарыстання валюты на медыцынскія мэты горада. Спатрэбілася шмат тлумачэнняў, перш чым на прадпрыемствах зразумелі, што за заводскай прахадной кожны зможа стаць пацыентам гарадской паліклінікі ці бальніцы. А таму стан гэтых устаноў — клопат агульны. І вось вынік: аб'яднанне «Палімір» выдзеліла 50 тысяч валюты першай катэгорыі для набыцця наркозных апаратаў фірмы «Дрэгер» (ФРГ). Па бартэрных пастаўках хімкамбіната наваполацкія медыкі атрымалі тры рэнтгенаўскія апараты з ВДЗапрыстаўкамі, два гематалагічныя аналізатары, медыцынскую мэблю, функцыянальныя ложкі. На валюту аб'яднання «Наваполацкнафтасінтэз» набыты ультрагукавыя скенеры фірмы «Ташыба» (Японія). Многа карыснага атрымалі медыкі і за 500 тысяч валюты пятай катэгорыі, выдзеленай ім заводам бялкова-вітамінных канцэнтратаў.

А вось завод «Вымяральнік» сам заняўся распрацоўкай праграмы аўтаматызаванай сістэмы кіравання «Ахова здароўя». Канструктары гэтага прадпрыемства стварылі апарат «Аргумент» для ультрагукавых метадаў даследавання захворванняў сэрца. Цяпер новы эхакардыёграф праходзіць выпрабаванні ў 4-й гарадской паліклініцы. Ужо сёлета прадпрыемства мяркуе сабраць 70 такіх апаратаў. Яны стануць добрым памочнікам урачам.

НА ЗДЫМКУ: урач аддзялення функцыянальнай дыягностыкі Вольга ЕМЯЛЬЯНАВА абследуе пацыентаў на ультрагукавым скенеры.

ПА АРЫГІНАЛЬНАЙ ТЭХНАЛОГІІ

## ІДЭЯ ПРЫЙШЛА... З КОСМАСУ

Нават на касмічнай вышыні можна, не апасаючыся за свой зрок, глядзець на асляпляльна яркае сонца праз акуляры, выраблены спецыялістамі і рабочымі аршанскага завода «Чырвоны Кастрычнік».

Асобы фільтр, як азонавы слой, аберагае вочы, затрымліваe больш за 90 працэнтаў ультрафіялетавага выпраменьвання. У той жа час аптычныя шкельцы ў сваёй ніжняй частцы свабодна прапускаюць дзённае святло. Варта толькі крыху апусціць позірк і, калі ласка, — чытайце кнігу ці газету, любуйцеся натуральнымі фарбамі пейзажу. Не трэба напружваць зрок, жмурыцца.

Тэхналогія вырабу сонцаахоўнага матэрыялу арыгінальная. А вось ідэя распрацоўкі незвычайнага фільтра прыйшла... з космасу. Падобную па эфектыўнасці ахову ад ультрафіялетавых промняў маюць ілюмінатары арбітальных караблёў і станцый.

Складанасць работы над «азонавымі» шкельцамі ў трывалай металічнай аправе дыктуе даволі адчувальную цану. Аднак яна будзе прыкметна меншай за тую, што не бянтэжыць пакупнікоў імпартных сонцаахоўных акуляраў.

Тэхналогія дазваляе арганізаваць на заводзе сервісны участак. Тут усім жадаючым нанясуць на лінзы іх акуляраў з дыёптрыямі «касмічнае» пакрыццё.

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПРАГРАМА САВЕЦКАГА ЎРАДА: ПЕРШЫ ЭТАП

У СССР пачалася рэалізацыя ўрадавай праграмы па аздараўленню эканомікі. Першы яе этап — найбольш цяжкі і адказны.

Народ зняверыцца ў праграме ў цэлым, калі ўжо ў 1990 годзе не адчуе рэальных вынікаў, так ацэньвае сітуацыю першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржплана СССР **Юрый МАСЛЮКОЎ**.

**ГАЛОЎНЫ НАПРАМАК — СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК**

Апошнія чатыры гады сярэднегадавы прырост вытворчасці тавараў народнага спажывання складаў 17 мільярдаў рублёў. На 1990 год урадам запланаваны прырост 66 мільярдаў рублёў.

Падобнага савецкая эканоміка яшчэ не ведала, каменціруе гэтую лічбу Ю. Маслюкоў. Каб яе дасягнуць, аб'ём капітальных укладанняў на развіццё магутнасцей па вытворчасці тавараў народнага спажывання павялічаны ў два разы. Акрамя таго, ужо да вясны маркуецца вырабіць 1 600 спецыяльных модуляў. Гэта камплектныя заводскія будынкі плошчай каля 1 000 квадратных метраў кожны. Змантіраваць іх і аснасціць абсталяваннем можна на працягу трох месяцаў.

Урад разлічвае, што насычэнню спажывецкага рынку будзе садзейнічаць і прынятае ў 1989 годзе рашэнне аб 3-працэнтным абмежаванні прыросту фонду заработнай платы. Яно не распаўсюджваецца на прырост, атрыманы ад вытворчасці тавараў народнага спажывання і перапрацоўкі прадукцыі сельскай гаспадаркі.

У гэтых умовах прадпрыемствам выгадна накіроўваць сродкі на развіццё вытворчасці спажывецкіх тавараў, а не сродкаў вытворчасці, упэўнены старшыня Дзяржплана СССР.

**ДЗЯРЖЗАКАЗ: СЁННЯ ПАТРЭБНЫ ЖОРСТКІЯ МЕРЫ**

Сітуацыя на савецкім спажывецкім рынку сёння такая, што ўрад вымушаны ўшчамляць самастойнасць прадпрыемстваў і ўстанаўліваць на многія віды прадукцыі дзяржаўны заказ.

Расшырэнне сферы дзяржзаказу — гэта адна з надзвычайных мер, неабходных на сённяшнім этапе, лічыць Ю. Маслюкоў. Праўда, за апошні час выдадзена каля дзесяці розных пастаноў аб стымуляванні выканання дзяржзаказу на тавары народнага спажывання. Але поспеху, на жаль, яны не прынеслі.

У нас вельмі мала караючых мер за невыкананне дзяржзаказу. А такія меры павінны быць, лічыць Ю. Маслюкоў. 1988—1989 гады паказалі, што без жорсткіх фінансавых мер нам не справіцца. Таму ўрад прыняў рашэнне аб мерах эканамічнага рэгулявання і стымулявання прыняцця і выканання дзяржаўных заказаў (перш за ўсё — на тавары народнага спажывання). Сутнасць іх у наступным. Кожнае прадпрыемства, натуральна, карыстаецца ўсемагчымымі банкаўскімі крэдытамі. Дык вось для тых, хто адмаўляецца прымаць на сябе заказ дзяржаўнага значэння (а такія выпадкі ёсць) ці, прыняўшы, не выконвае яго, працэнтная стаўка за крэдыты павялічваецца ў паўтара раза.

**ГРОШЫ І ТАВАРЫ: ЯК ІХ СУМЯСЦІЦЬ?**

Юрый Маслюкоў інфармуе, што эмісія грошай у 1989 годзе склала 18 мільярдаў рублёў. Яны «выліліся» на дэфіцытны савецкі рынак і абясцэнілі грашовыя заробленыя насельніцтвам сродкі. Каб абараніць чалавека ад інфляцыі, распрацавана сістэма фінансавага аздараўлення. У яе аснове ляжыць механізм індэксацыі ўзроўню жыцця (даходаў, заработнай платы, расходаў), які практычна ўпершыню ўкараняецца ў СССР.

У першую чаргу размова ідзе аб людзях з фіксаванымі невысокімі даходамі: пенсіянерах, студэнтах, нізкааплатных работніках. Калі інфляцыя ў нейкі перыяд складзе, напрыклад, 5 працэнтаў, то іх пенсія, стыпендыя ці заработная плата павысіцца на такі ж ці блізкі да гэтага працэнт, абяцае старшыня Дзяржплана СССР. А дапоўніць гэта дзяржаўны кантроль за цэнамі, асабліва на тавары для дзяцей і пенсіянераў, які ўводзіцца цяпер.

Урадам распрацавана і цэлая сістэма мер па «выняцці» ў насельніцтва многіх дзесяткаў мільярдаў ужо накопленых, але нерэалізаваных рублёў. Гэта выпуск аблігацый даўгачасных пазыкі пад павышаны працэнт, таварныя пазыкі на атрыманне ў будучыні востра дэфіцытнай прадукцыі (машын, мэблі і да т.п.), аўкцыённыя продаж ювелірных вырабаў, прадметаў мастацтва і інш. Расшырыцца ў 1990 годзе практыка продажу насельніцтву гарадскіх кватэр з дзяржаўнага жылога фонду, дачных участкаў і здача ў даўгачасную арэнду (з правам спадчыннасці) зямлі пад сады і агароды.

Калі гэтыя меры дапоўняцца хутчэйшым уведзеннем новай падатковай палітыкі і некаторымі іншымі актамі, то зусім рэальна ў 1990 годзе скараціць бюджэтны дэфіцыт да 60 мільярдаў, а яшчэ праз тры гады — да 20 мільярдаў рублёў, лічыць Ю. Маслюкоў.

**НОВАЕ — ГЭТА ДОБРА ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ**

Гаворачы пра іншыя акты, старшыня Дзяржплана мае на ўвазе пакет законаў, якія будуць разгледжаны на цяперашняй сесіі парламента. Гэта закон аб уласнасці, без якога буксуе рэформа; закон аб зямлі, які павінен прынцыпова змяніць становішча селяніна ў краіне. Хутчэй за ўсё з-за непадрыхтаванасці некалькі адсунуты разгляд закона аб банкаўскай сістэме. Але затое парламент разгледзіць пакет законапраектаў, звязаных з размежаваннем паўнамоцтваў паміж Саюзам ССР і саюзнымі рэспублікамі, умацаваннем іх суверэнітэту.

Усё гэта патрабуе прынцыповых зрухаў у метадалогіі планавання, кіравання народнай гаспадаркай, гаворыць Ю. Маслюкоў. Асноўны момант навізны ў тым, што план цяпер будзе рэальна фарміравацца «знізу», гэта значыць распрацоўвацца прадпрыемствамі, аб'ядноўвацца на ўзроўні рэгіёна і стыкавацца ў «цэнтры» з агульнадзяржаўнымі патрэбамі. Таму ў 1991—1992 гадах Дзяржплан пакіне ў сваіх паказчыках толькі тое, што датычыць узроўню макраэканамічнага планавання, прынятага ў міжнароднай практыцы.

Расказваючы аб змяненнях у планаванні, Ю. Маслюкоў не забывае, што ідэя гэтая далёка не новая. У савецкай эканамічнай літаратуры яна «жыве» ўжо не адзін дзесятак гадоў, але толькі ў перыяд перабудовы змагла пачаць шлях ад тэорыі да практыкі.

**ЭКАНАМІЧНЫЯ СПРЭЧКІ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАМІ: ЯК ІХ ВЫРАШЫЦЬ?**

Дэцэнтралізацыя кіравання і планавання, не падмацаваная пакуль рэформай цэнаўтварэння і падаткаабкладання, абвастрае міжрэспубліканскія эканамічныя адносіны. Прынцып монаразвіцця многіх рэгіёнаў, нізкія цэны на выходную сыравіну прывялі да таго, што рэспублікі, якія выпускаюць канчатковую прадукцыю, жывуць фактычна за кошт тых, хто здабывае карысныя выкапні, займаецца іх перапрацоўкай і да т. п.

Сярод шматлікіх мер, якія будуць прыняты для вырашэння гэтай праблемы, гаворыць Ю. Маслюкоў, будзе зроблена спроба ў 1990 годзе ўвесці падатак на прыбаўлачную вартасць. Іншымі словамі, падатак будзе павялічвацца па меры развіцця тэхналагічнага ланцужка: ад здабычы сыравіны да стварэння канчатковага прадукту і яго продажу. Гэта дазволіць больш правільна будаваць эканамічныя адносіны паміж рэспублікамі.

**1990 ГОД ПАВІНЕН СТАЦЬ...**

...годам стабілізацыі спажывецкага рынку і фінансавага становішча, годам першага этапу скарачэння бюджэтнага дэфіцыту, годам пачатку структурнай перабудовы народнай гаспадаркі, годам падрыхтоўкі ўвядзення ўсяго пакета законаў, неабходных для нармальнага функцыяніравання савецкай эканомікі, спадзяецца першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржплана СССР Юрый Маслюкоў.

**ЖЫВУЧЫ Ў ДОЎГ, БАГАТЫМ НЕ СТАНЕШ**

Ці робіцца савецкая эканоміка больш адкрытай, больш успрымальнай да станоўчага замежнага вопыту? Гаварыць пра гэта, на жаль, пакуль рана. Асноўная праблема ў тым, каб адмовіцца ад дырэктыўных метадаў кіравання народнай гаспадаркай, перавесці яе на рэйкі эканамічнага і прававога рэгулявання. Але як? Наконт гэтага прапануецца нямала рэцэптаў з розных трыбун, экранаў тэлевізараў, старонак друку.

Адно з пытанняў, вакол якога разгараюцца пачуцці, — пра заходнія крэдыты і іх выкарыстанне. Што граху таіць: тавары голад у краіне ўзмацняецца, пакупная здольнасць рубля падае, «ценевая эканоміка» працвітае, абвастраецца сацыяльная напружанасць. Дзе выйсце? Адназначнага адказу няма. Для вырашэння праблемы патрэбны комплексны падыход, у прыватнасці, на шляхах развіцця знешнеэканамічных сувязей.

І ў гэтай сітуацыі без запазычання сродкаў за мяжой, лічыць намеснік старшыні праўлення Банка знешнеэканамічнай дзейнасці СССР **Эдуард ГОСЦЕЎ**, не абысціся. Пытанне не ў тым, браць ці не браць крэдыты ў заходніх банкаў. Мы не ўтойваем, працягваў ён, што ў нас ёсць праблемы фінансавання эканамічнай рэформы: стаіць задача рэканструяваць, мадэрнізаваць практычна ўвесь вытворчы апарат, наладзіць новыя вытворчасці, забяспечыць на гэтай падставе насельніцтва таварнай прадукцыяй. І ў даных умовах, вядома ж, СССР зацікаўлены ў крэдытных здзелках. Але няправільна было б сцвярджаць, як гэта іншым разам можна сустрэць у замежным друку, быццам мы ідзём да Захаду з працягнутай рукой.

Так, як пазычальніку аўтарытэтнаму, абавязковаму, нам адкрываюць крэдыты. Хаця апошнім часам раздаюцца галасы, быццам з-за цяжкасцей у савецкай эканоміцы, з-за адсутнасці істотных зрухаў у правядзенні радыкальнай рэформы крэдытаванне пачало скарачацца. Гэта далёка не так. Наадварот, зусім неабавязкова, адзначыў Эдуард Госцеў, што мы скарыстаем поўны аб'ём усіх крэдытных сродкаў, якія нам прадастаўлены. Хаця большую частку, відавочна, усё ж скарыстаем. Але тут, працягваў ён, узнікаюць, перш за ўсё ў нас, сумненні: ці зможам пагаспадарску распарадзіцца новымі пазыкамі і крэдытамі? Хто, як і за кошт чаго будзе пагашаць пазыкі?

Небяспека таго, што немалыя пазычаныя сродкі могуць пайсці на вецер, існуе. «Вопыт» у нас наконт гэтага ёсць. Усяго два прыклады. У 1987 і 1988 гадах мы закупілі за мяжой на валюту амаль 5 мільёнаў тон некандыцыйнага збожжа і хлебапрадуктаў і пацярпелі вялікія страты. Яшчэ выпадак. З-за таго, што ў трумы трапіла марская вада, сапсавана і ўцэнена каля 2 тысяч тон какавы. Страта — мінімум 2 мільёны рублёў. І падобных прыкладаў, на жаль, нямала. Усё гэта — праяўленні безгаспадарчасці, якая мяжуе са злачыннасцю. Пры няўмелым, некампетэнтным выкарыстанні заходнія крэдыты могуць ператварыцца ў пастку, прычым не толькі фінансавую, але і палітычную.

Летам мінулага года Старшыня Савета Міністраў СССР Мікалай Рыжкоў паведаміў, што знешняя запазычанасць складае 34 мільярды рублёў. Многа гэта ці мала? Адказаць на пастаўленае пытанне, на думку Госцева, можна зыходзячы з рэальных, а не патэнцыяльных магчымасцей краіны. Бясспрэчна, СССР багаты прыроднымі рэсурсамі, ён мае многія мільёны высокакваліфікаваных працаўнікоў. І ўсё ж па сённяшніх эканамічных мерках запазычанасць 34 мільярды рублёў здаецца вельмі высокай. Больш таго, яна ўшчыльную наблізілася да верхняй планкі нашых магчымасцей пагашэння пазыкі.

Гэта, праўда, не азначае, што мы спынімся на дасягнутай велічыні ў запазычанні. Аб'ём крэдытных сродкаў, як мы думаем, можа быць і большым. Але пры абавязковай умове: па меры паспяховага вырашэння ўнутраных гаспадарчых праблем. Таму да далейшага нарошчвання знешняй запазычанасці ставімся максімальна ўзважана.

## *ЧЛЕНЫ САВЕЦКАГА ЎРАДА ЛІЧАЦЬ, ШТО...*

**Леў ВАРОНІН, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР:**

**...у 1990 годзе ўдасца дасягнуць рэальнага адчувальнага паляпшэння на спажывецкім рынку, а ў наступныя два гады аб'ём выпуску тавараў народнага спажывання ўзрасце яшчэ на 77—82 мільярды рублёў. У тым ліку непрадуктовых — на 57—60 мільярдаў рублёў. Улічваючы сённяшнюю вастрыню становішча, урад вызначыў шэраг тавараў масавага попыту, узровень дзяржаўных рознічных цэн на якія захоўваецца без змяненняў. Намечаны меры, накіраваныя на прадухіленне знікнення з вытворчасці танных вырабаў, і перш за ўсё для дзяцей і асоб сталага веку. Акрамя таго, вызначаны парадак прымянення дагаворных цэн на новыя непрадуктовыя тавары, згодна з якім надбаўка да іх не можа павышаць 30 працэнтаў да дзяржаўных рознічных цэн.**

**Леанід АБАЛКІН, намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржаўнай камісіі Савета Міністраў СССР па эканамічнай рэформе:**

**...для выхаду краіны з глыбокага сацыяльна-эканамічнага крызісу патрэбны тры ўмовы: дакладкая праграма, рабочы план пераўтварэнняў, добра скаардынаваны па напрамках і тэрмінах; адабрэнне і падтрымка праграмы з боку заканадаўцаў і грамадства ў цэлым; палітычная воля і арганізацыйнае ўменне ажыццявіць праграму.**

**Праграма ва ўрада ёсць. Пасля вострых дыскусій яка была адобрана на другім З'ездзе народных дэпутатаў СССР. Пытанне аб усеагульнай кансалідацыі вакол урадавай праграмы яшчэ не знята з парадку дня. Рашучасць і цвёрдасць у правядзенні выпрацаванай лініі ў нас ёсць. Большасць людзей нам верыць. І мы не можам, не маем права не апраўдаць гэтага давер'я.**

**Ігар БЕЛАУСАЎ, намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржаўнай камісіі Савета Міністраў СССР па ваенна-прамысловых пытаннях:**

**...канверсія ваеннай прамысловасці ўнясе важкі ўклад у аздараўленне эканомікі. У 1990 годзе каля 50 працэнтаў аб'ёму вытворчасці абароннага комплексу будзе арыентавана на выпуск прадукцыі народнагаспадарчага прызначэння. Цяпер заканчваецца распрацоўка Дзяржаўнай праграмы канверсіі на 1991—1995 гады. У ёй прадугледжана павелічэнне гэтага аб'ёму да 60 працэнтаў.**

**Ваенна-прамысловы комплекс — гэта не толькі вытворчасць, але і магутная, рознабаковая навука. У 1990 годзе значныя яе сілы будуць накіраваны на «мірныя» пошукі, не на шкоду, вядома, забеспячэнню дастатковасці абароннага патэнцыялу краіны.**

**Уладзімір ГУСЕЎ, намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Бюро Савета Міністраў СССР па хіміка-лясному комплексу:**

**...адна з самых сур'ёзных цяжкасцей, з якімі мы цяпер сутыкнуліся, — гэта — узрастаючая колькасць прапаноў аб закрыцці вытворчасцей хіміка-ляснога комплексу. Гэта можа прывесці да будучых крытычных сітуацый на спажывецкім рынку. Таму што больш за 60 працэнтаў прадукцыі, выпускаемай на прадпрыемствах хіміка-ляснога комплексу, паступае непасрэдна ў магазіны. У 1990 годзе мы намецілі павялічыць аб'ёмы вытворчасці тавараў народнага спажывання на 15 працэнтаў, у тым ліку лякарстваў — на 11, сінтэтычных мыючых сродкаў — на 18, мэблі — на 14 працэнтаў.**

**Павел МАСТАВОЙ, намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню:**

**...пакуль у краіне няма паўнаважных грошай, антыманапольных абмежаванняў, эфектыўнай падатковай сістэмы і іншых эканамічных і прававых рычагоў рэгулявання, разлічваць на рэальна свабодны рынак сродкаў вытворчасці не даводзіцца. Рэзкае, скачкападобнае зніжэнне дзяржаўнага заказу на матэрыяльна-тэхнічную прадукцыю прывяло толькі да ўзмацнення самавольства вытворцаў, дэзарганізацыі забеспячэння многіх прадпрыемстваў.**

**Таму на даным этапе адбудзецца ўзмацненне рэгулюючага цэнтралізаванага пачатку ў размеркаванні матэрыяльных рэсурсаў.**

№ 8 (2150), 22 лютага 1990 г.

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# БЕЛАРУСКІ НАПЕЎ КРАІНЫ СРЭБРА

НА РАЗВІТАННЕ, амаль што перад спакон вякоў заведзеным «прысядзем на дарожку», ён скажа задумена:

— І сказаць, што я з Беларуссю так моцна павязаны лёсам адным перавяслам... адно нарадзіўся тут. А нешта ўсё-такі трымае за сэрца, сваё як ні кажы. Відаць, пад старасць альбо як дужа прыбярэ хвароба, толькі тады чалавек найвастрэй разумее цану жыцця і тыя галоўныя рэчы, якія надаюць яму хараство, за грошы не купленае... Ці думаў я калі, што за тысячы кіламетраў ад Аргенціны таварыства «Радзіма», чулы і сардэчны персанал санаторыя «Крыніцы» адклікнуцца клопатам аб маім ці Віктара з Беластока здароўі. Дзе знайсці тыя словы ўдзячнасці? Вялікую справу робіць таварыства, дапамагаючы нам. Я маю на ўвазе не толькі сябе і Віктара. Колькі нас на свеце...

«А на самай справе, колькі? — падумалася мне. — Якую колькасць выхадцаў з Беларусі, колькі краін прыняло? І які б вучоны розум ні браўся за статыстыку, бязлітасная мінуўшчына возьме верх папраўкамі накшталт «прыблізна», «умоўна», «графа «беларусы» ў статыстычных даведніках не значыцца». Усё роўна, як у войску Чынгіз-хана — «туман», што значыць «многа».

...Перадгісторыя маёй сустрэчы з прадстаўніком Федэрацыі культурных таварыстваў савецкіх грамадзян Аргенціны Рыгорам Скалковічам была даволі простая, але запланаваная. Штогод Беларускае таварыства «Радзіма» запрашае суайчыннікаў з-за мяжы на лячэнне і адпачынак. На збегу мінулага года запрашэнне атрымаў і мой субяседнік.

Дарэчы, у адносінах да працоўных імігрантаў-беларусаў Аргенціны адпаведныя лічбы ёсць, і, скарыстоўваючы нагоду, я адразу пацікавіўся:

— Рыгор Андрэевіч, «Беларускі ілюстраваны каляндар на 1940 год»... ведаеце, выходзіла калісьці ў сталіцы Аргенціны такое выданне беларускіх суполак?

— Ведаю, чаму ж не. Аднак гадоў колькі па вайне ён перастаў друкавацца.

— Дык вось, гэты каляндар пісаў, што з 1925 па 1939 год у Аргенціну з Заходняй Беларусі эмігрыравала 50 тысяч...

— Лічба, мусіць, праўдападобная, ды мне цяжка сцвярджаць: быў я тады надта малы. Бацькі выбраліся на чужыну ў 1937 годзе, калі мне і тры гады не споўнілася. Ды і не затрымаліся мы з першага разу ў Аргенціне, перабраліся ў Парагвай.

А той жа Парагвай сустрэў іх такімі варункамі, што наўрад ці варта было перасякаць Атлантыку бягом ад нядолі з вёскі Каменюкі, што на беразе Правай Лясной, каб трапіць у абдымкі галечы на супрацьлеглым баку Зямлі, сярод індзейцаў гуарані, пражэрлівых маскітаў і дзікіх трапічных джунгляў.

— ...І апынуліся мы зноў у Аргенціне, у правінцыі Чака, непадалёку ад гарадка Саэнс Пенья, — працягваў расказ аргенцінскі беларус. — Наймаліся на работу куды бралі, ашчаджалі кожнае сэнтава. Елі валовы тлушч з хлебам, што за капейкі прадаваўся ў вялізных шкляных слоіках... Дагэтуль не магу глядзець на гэты «бутэрброд». Талькі ў пачатку 50-х наша сям'я ўпэўнена стала на ногі, дзякуючы, канешне, паляпшэнню эканамічнага становішча дзяржавы. Потым мы пераехалі ў сталіцу, дзе я ўладкаваўся на завод токарам. Там працую і цяпер.

— Рыгор Андрэевіч, з вашых слоў вынікае, што высокі ўзровень жыцця аргенцінцаў у 50-х абяцаў бясбеднасць. Сапраўды, агульнавядома, што Аргенціна атрымлівала важкія дывідэнды ад пасляваеннага гандлю са знясіленым у апакаліпсічнай бойцы астатнім светам: ялавічына, пшаніца, віно... Але ж менавіта ў тыя настальгічныя сёння для вас дні зачынаецца і набірае моц імпэтны рух за вяртанне нашых суайчыннікаў назад, да бацькоўскіх ачагоў, спляжаных і зраненых фашыстамі. Добра ж ведалі тыя, хто надумаў ехаць: на Радзіме жылі ў зямлянках, хадзілі ў чунях...

— Так, многія вернуцца дахаты, хоць гэта няпроста: ізноў кідаць усё — і ў дарогу. Як вы думаеце? Тут трэба гаварыць аб сапраўдным патрыятызме працоўных эмігрантаў, плённай культурна-асветніцкай дзейнасці нашых шматлікіх даваенных таварыстваў — імя Я. Коласа, імя Я. Купалы, «Мінска», «Белавежы» і многіх іншых, ваеннага часу Беларускага камітэта дапамогі Радзіме, які сабраў і пераслаў на Бацькаўшчыну ахвяраванняў на мільён песа, адзінаццацітысячнага «Беларускага ачага», заснаванага ў 48-м. Памятаць не памятаю, але ведаю, з якой радасцю і энтузіязмам, як эмацыянальн[illegible]ларускія каланісты Аргенц[illegible] ўспрынялі вестку аб уз'яднанні Заходняй і Усходняй Беларусі. Аднак самым магутным стымулятарам рэпатрыяцыі стала перамога савецкага народа над нацыстамі. Яна незвычайна высока падняла аўтарытэт Сав[illegible]га Саюза. Праз год пасля [illegible]ы прэзідэнт Аргенціны Хуан [illegible]ерон устанавіў дыпламатычныя адносіны з СССР. Усё гэта і паспрыяла таму, што ў Савецкі Саюз выехала пятнаццаць тысяч аргенцінскіх суайчыннікаў...

— Я ўпершыню чую гэтую лічбу, — прызнаўся я. — Але, каб быць аб'ектыўным, трэба адзначыць: нейкая частка рэпатрыянтаў гадоў праз пяцьдзесяць трэці раз пакіне гістарычную Радзіму і накіруецца на прыёмную... Як вы, тыя, хто заставаўся ў Аргенціне, адносіліся да гэтай з'явы? Як тлумачылі яе? Уздзеяннем якіх фактараў?..

— Перш за ўсё, думаю, эканамічных. Бо было заўважана: як толькі эканамічнае становішча аргенцінскага абываценя пачынае пагаршацца, а савецкага паляпшацца — пераезды затухаюць. Як адносіліся? Хто як... Увогуле, гэты момант адмоўна адбіўся на прагрэсіўным руху суайчыннікаў і дзейнасці нашых суполак. Прэстыжнасці ён нам не прыбавіў, адкрыта скажу.

...На нейкі момант я адчуў, што задаў размове нацыянальную абмежаванасць, хоць асабіста сам, знаходзячыся ў Аргенціне і размаўляючы з суайчыннікамі, неаднаразова чуў: «Паміж намі няма розніцы: беларус ты, украінец ці рускі».

Нас паслухаць, дык іміграцыйная праслойка ў краіне гауча, якая мае крэўную повязь, карэнні ў СССР, цалкам эканамічная і выключна беларускага паходжання.

Тлумачэнне на гэты конт майго субяседніка:

— Выхадцы з Заходняй Беларусі і Украіны, якіх большасць у славянскім асяродку, і заснавалі тыя дзесяць клубаў, згуртаваных сёння ў Федэрацыю культурных таварыстваў савецкіх грамадзян Аргенціны. Першыя працоўныя эмігранты з Расіі, украінцы і беларусы, наколькі мне вядома, прыйшлі ў Аргенціну недзе на мяжы XIX і XX стагоддзяў. А як заціхла грамадзянская вайна — тут асталявалася белагвардзейская іміграцыя. Пасля Вялікай Айчыннай з'явіліся «перамешчаныя асобы», пераважна ўкраінскія нацыяналісты, як мы гаворым. Надзвычай з'яднанай і моцнай лічыцца армянская абшчына. Ёсць літоўская, латышская. Можна прыгадаць і іншых славян: чэхаў, югаславаў, палякаў...

(Па праву відавочцы дадам: у тым этнічным Вавілоне аргенцінскага стылю, дзе на 30 мільёнаў імпартаваных з розных куткоў свету грамадзян-іншародцаў выпадае 150 тысяч тубыльцаў-індзейцаў, пануе лад і памяркоўнасць на нацыянальным і расавым паверхах вежы і ў адносінах да бога).

Несумненна, што ў адмысловых умовах агульнанацыянальнага катла, у якім пераплаўляюцца ў адну дзесяткі культур, у іх ліку і беларуская, асіміляцыя бярэ сваё. Але не ўсіх... Ды кінулася мне ў вочы ў час знаходжання ў Аргенціне: братка-беларус хутчэй за іншых асімілюецца і з адзінаверцамі славянамі, і з лацінянамі. Нягледзячы на гэта, бачыў я, што людзі аднаго з намі этнасу цягнуцца адзін да аднаго, ладзяць асяродкі духоўнай лучнасці, свой мікракосмас з памяццю аб далёкай Айчыне. Стрываюць беларускія сябрыны і рэпрэсіўную сцюжу ваенных дыктатур Аргенціны, і мароз сталінскага абсалютызму, «халоднай вайны», і непрыязную імжу стагнацыі. І паўстануць новыя клубы і зямляцтвы. Як у горадзе Аврэра правінцыі Місіонэс. За нейкія тры-чатыры гады, дзякуючы намаганням нястомнага і ахвярнага прыхільніка роднай культуры, чалавека глыбока веруючага сеньёры Зяноны Саўчук, зямляцтва акрэпла, абзавялося клубным домам, драўлянай хатай, стылізаванай пад даўніну. Па яе, старшыні асяродка, ініцыятыве на чырваназёме аргенцінскай пампы ля ўваходу ў клуб будзе ўстаноўлены бюст Янкі Купалы, які ўжо падрыхтаваны таварыствам «Радзіма» для адпраўкі. Першы помнік нацыянальнаму паэту Беларусі ў Паўднёвай Амерыцы на стыку Аргенціны з Парагваем і Бразіліяй!

...У мінулым годзе землякі абралі рабочага Рыгора Скалковіча ў праўленне Федэрацыі. Хоць клопату і адказнасці прыбавілася, ды яны не шкодзяць ягонай актыўнасці ў родным клубе імя М. Астроўскага.

— Наш клуб — адзін з самых прадстаўнічых у Федэрацыі, — лічыць госць з берагоў Ла-Платы. — Заснаваны ў 1946 годзе, налічвае каля 300 членаў. Маем неблагую мастацкую самадзейнасць: удзельнічаюць дзеці, юнакі, дарослыя. Наш хор «Рассвет» карыстаецца вядомасцю не толькі сярод суайчыннікаў, але і мясцовага насельніцтва. Не менш аўтарытэтныя і спартыўныя каманды клуба. Мы — у шэрагу першых, хто бярэ ўдзел у будове спартыўнага гарадка і пансіяната «Ціхан» для адзінокіх і састарэлых суайчыннікаў.

— Гэта на тых 22 гектарах зямлі, якія Фядора і Ганна Заброцкія ахвяравалі Федэрацыі і прадстаўніцтву Рускай праваслаўнай царквы Маскоўскага Патрыярхата ў Аргенціне?

— Так. Акрамя таго ў мінулым годзе мы дамагліся адкрыцця радыёпраграмы «Хорошо» на прыватнай радыёстанцыі муніцыпалітэта Ланус. Перадача фінансуецца за кошт рэкламы інтарэсаў суайчыннікаў. На працягу гадзіны на рускай і іспанскай мовах мы інфармуем і сваіх, і аргенцінскую грамадскасць аб тых падзеях, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе. Перадаём таксама беларускую, украінскую, рускую народную музыку. Якраз я і атрымаў даручэнне знайсці музычны і краязнаўчы матэрыял пра Беларусь і, галоўнае, аб перабудове...

Тэма гэтая — цэнтральная ў аўдыторыі замежных суайчыннікаў. З іх зацікаўленага, дасведчанага і добразычлівага боку мы ім бачымся выразней, чым каму іншаму, як мяркуе Рыгор Андрэевіч. На яго думку, рэканструкцыя нашага грамадства можа мець планетарны ўплыў.

Ад сябе дадам, што аднаўленчыя працэсы непасрэдна падыходзяць да вырашэння шматлікіх, «састарэлых» пытанняў і праблем замежных суайчыннікаў, сярод якіх 200 тысяч маюць савецкі пашпарт: узаемаадносіны СССР з суайчыннікамі замежжа і іх крэўнымі ў краіне, прававыя гарантыі, стаўленне дзяржавы да двайнога грамадзянства, удзел землякоў-іншаземцаў у выбарах і іншае. Пачакаем адказу чарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР.

Некалькі слоў аб «унутраным» рэхе перабудовы:

— Мяне здзівіла: як толькі я [illegible] на Бацькаўшчыне пачну крь[illegible]чна адзывацца, гаварыць тое, што сапраўды ёсць у капіталістычнай сістэме, — людзі глядзяць на мяне з недаверам, упэўнены: раз капіталізм — значыць усё добра, ідэальна. Хт[illegible]рачаецца: у нас ёсць чам[illegible] учыцца, але ёсць і негатыў[illegible]ае. Няведама чаго болей... Сапраўды, яшчэ пасля вайны Хуан Перон увёў у Аргенціне, як вы называеце, «трынаццатую» зарплату. Але сёння на вуліцы насуперак абяцанням новага перанісцкага ўрада Карласа Менэма...

А далейшае пра «цяжкасці капіталізму» я выкрасліў. Падумаў, што ў намнога большай ступені, чым Рыгор Скалковіч, магу быць абвінавачаны ўжо сваім чытачом у апалагетыцы «контрпрапагандысцкіх прыёмаў часоў застою» ці проста ў звароце да «старой песні». Пакуль я пісаў ды крэсліў гэты матэрыял, прыйшоў нечакана хуткі ліст ад Рыгора Андрэевіча, які прымусіў мяне дакументальна закончыць перарваную думку майго субяседніка. «У нас у Аргенціне — разгар лета, моцная жара. Духата і ў прыродзе, і ў эканоміцы. Мы стаім на шляху да катастрофы: інфляцыя страшэнная, беспрацоўе».

— А як жа не быць праблемам, — горача перабіў госць маё «перад намі таксама стаяць складаныя праблемы».—Як жа не быць... Аднёс я валізку ў рамонт: ручка зламалася. Два дні хадзіў: таго няма, сяго няма. Я майстру сказаў адкрыта: з такой работаю ты ў Аргенціне на хлеб не зарабіў бы, а ў Савецкім Саюзе табе за яе яшчэ і грошы плацяць...

Павёз на малую радзіму Рыгор Скалковіч, беларус па паходжанні і аргенцінец па месцапражыванні, багацце ўражанняў, прысвечаны яму верш беларускага паэта з Беласточчыны Віктара Шведа, з якім разам лячыўся, матэрыял для радыёперадачы «Хорошо» і зварот грамадскіх арганізацый Беларусі да замежных суайчыннікаў аб дапамозе ў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

# «ПАТРАБУЕМ АДСЯЛЕННЯ»

Нядаўна ў беларускім друку было паведамленне, што ў Мінску на сустрэчы з кіраўніцтвам рэспублікі пабывала дэлегацыя ад жыхароў горада Нароўлі, якія патрабавалі неадкладнага адсялення ў чыстыя раёны. Быў падпісаны пратакол, своеасаблівая гарантыя, што абяцанае будзе выконвацца. І вось у Вярхоўным Савеце зноў госці. На гэты раз—з Брагіна.

Аўтобус, які даставіў брагінцаў у сталіцу рэспублікі, нічым не вызначаўся на стаянцы аўтатранспарту. І ў яго пасажыраў не было ў руках плакатаў і лозунгаў. І ў вестыбюлі Вярхоўнага Савета госці паводзілі сябе стрымана, ва ўсім спадзеючыся на народнага дэпутата Вярхоўнага Савета СССР С. Гермеля, які быў разам з імі. Людзі прыехалі не скандаліць, не нагнятаць істэрыю. Яны разумеюць, што імгненна ўрад не вырашыць іх праблем. Але і цягнуць далей няма куды, цярпенню прыходзіць канец. Трывога за здароўе, за будучыню дзяцей становіцца ўсё мацнейшай.

«Мы разумеем, што становішча ў краіне вельмі цяжкае. І таму пакуль не ідзём на забастоўку. Але калі нашы патрабаванні не будуць задаволены, яе не мінаваць». Гэта з размовы з кавалём з Брагіна Аляксеем Качаноўскім.

І вось перагаворы—так больш трапна будзе назваць гэтую сустрэчу—адбыліся. Жыхары Брагіна прад'явілі шэраг патрабаванняў, сярод якіх: высяленне ўжо сёлета сямей з дзецьмі, цяжарных і людзей з вострымі захворваннямі, спыненне непатрэбнага будаўніцтва і перадыслакацыя будаўнікоў у чыстыя раёны, згортванне вытворчасці сельгаспрадукцыі, чысціня якой не гарантавана.

У адрозненне ад сустрэчы з жыхарамі Нароўлі, выніковы пратакол складзены не быў. Вырашылі, што наспех такія дакументы не робяцца. Дамовіліся аб паўторнай сустрэчы праз некаторы час, да якой падрыхтуюцца абодва бакі.

Каментарый зрабіў намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня рэспубліканскай камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі А. Кічкайла:

— Адзінаццаць раёнаў толькі Гомельскай вобласці маюць поўнае права вось гэтак жа, як Брагін і Нароўля, катэгарычна ўзнімаць праблемы. А між тым, рэспубліканская праграма яшчэ не зацверджана Вярхоўным Саветам СССР, пад яе патрэбны вялікія сродкі, якіх пакуль няма. Ды і тыя, што выдзелены, асвоіць не так ужо лёгка. Той жа Гомельскай вобласці выдзелена 320 мільёнаў, але выкарыстоўваюцца яны не лепшым чынам. Зусім відавочна, што нам трэба прымаць дадатковыя меры, прычым не толькі ў Нараўлянскім ці Брагінскім раёнах. Ужо ёсць дамоўленасць, што 2,5 тысячы польскіх будаўнікоў пачнуць узводзіць жыллё ў Магілёўскай вобласці, прымем шэраг экстранных мер для таго, каб у гэтым годзе прадаставіць жыллё сем'ям з дзецьмі, цяжарным, хворым. Работа наперадзе вялікая.

